30 красавіка 2015 | № 17 (434)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Я назаўжды палюбіў Беларусь»
стар. 15

**4 ГАЛОЎНАЕ СВЯТА**

Дзень Перамогі становіцца ўсё больш значным як у сістэме прапаганды, так і ў сістэме легітымацыі ўлады

**6 НЕПАЎНАЛЕТНІЯ АХВЯРЫ ГВАЛТУ**

Згодна з дадзенымі МУС, штодня ў Беларусі гвалтуюць хаця б адно дзіця. І адзіная грамадская арганізацыя, якая займаецца праблемай сексуальнага гвалту над дзецьмі, — МГА «Разуменне»

**13 ЧАМУ НЕ ІДУЦЬ РЭФОРМЫ?**




**14 ЗАСЛАЎСКІ НАКІРУНАК: ДЫВЕРСАНТЫ І КАНТРАБАНДЫСТЫ**

Сітуацыя на Рыжскай мяжы заставалася напружанай амаль да вераснёўскага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у 1939 годзе

# Паламаная цацка Пуціна

## Нешта ўсе інтэграцыйныя стварэнні альбо не працуюць, альбо працуюць не так, як трэба



Сяргей ПУЛЬША

У паўсядзённай мітусні мы не заўважылі маленькага юбілею: сто дзён прайшло з пачатку функцыянавання Еўразійскага эканамічнага саюза — адной з «любімых цацак» Уладзіміра Пуціна. Зазвычай, першыя сто дзён глабальную справу не крытыкуюць, але пасля робіцца высновы наконт яе існавання. Якія ж высновы можна зрабіць са ста дзён ЕАЭС?

Гэты саюз Пуцін задумваў задоўга да Крыму. Відавочна, што новае стварэнне павінна было запрацаваць менавіта ў рэчышчы таго, каб даць яму вобраз «збіральніка земляў рускіх». Але Крым усе гэтыя амбіцыйныя планы перакрэсліў. Унутры Расіі рэйтынг Пуціна зашкальвае дзякуючы «Крымнашу» і штодзённаму прапагандысцкаму прамыванню мазгоў. На постсавецкай жа прасторы ні пра якое «збіральніцтва земляў» размова не ідзе, а любыя інтэграцыйныя праекты з Расіяй зараз разглядаюцца праз прызму «зялёных чалавечкаў».

Палітычнай мэты ЕАЭС Пуцін не дасягнуў. Так што наўрад ці ён застанецца ў гісторыі як збіральнік земляў, тым больш, што без Украіны гэтыя землі няпоўныя.

Эканамічныя паказчыкі ЕАЭС таксама пакуль што не радуюць. ЕАЭС запрацаваў у той час, калі ў Расіі абваліўся рубель, а ў Беларусі прайшла гібрыдная дэвальвацыя. На гэтым фоне паказчыкі ўзаемнага гандлю паміж краінамі ЕАЭС вельмі нізкія. За тры месяцы бягучага года тавараразварот не толькі не вырас, але і скараціўся ў параўнанні з практыкай Мытнага саюза.

Лукашэнка на сустрэчы з Пуціным і Назарбаевым у Астане сказаў, што «ў нас за мінулы і гэты год тавараразварот прыстойна знізіўся, прыкладна на 15–16% у ЕАЭС». Насамрэч, у мінулым годзе ЕАЭС яшчэ не было, таму пра зніжэнне выпадае казаць толькі на падставе лічбаў гэтага года. А яны яшчэ горшыя, чым казаў беларускі кіраўнік. Па дадзеных Казахстана, яго тавараразварот з саюзнікамі ў студзені-лютым знізіўся на 19%. Як паведамляе расійскі партал «Провэд», Расія скарачае тавараразварот з краінамі ЕАЭС. Так, экспарт у Сінявокую ў студзені 2015 года абрынуўся на 35%, а імпарт — на 42%. Нішто сабе падпісалі эканамічны саюз, ага.

Паміж стваральнікамі ЕАЭС — Беларуссю і Расіяй, — зноўку можа пачацца «нафтавая вайна». Раней Беларусь і Расія дамовіліся, што Сінявокай з усходу прыйдуць 23 мільёны тон нафты ў гэтым годзе, але не проста так. У абмен нашая краіна павінна была пастаўляць у Расію пэўную колькасць зробленага з гэтай нафты бензіну. Расія пакуль што выконвае абяцаныя пастаўкі, але малодшая сястрычка «заціснула» бензін на падставе таго, што з-за падзення расійскага рубля прадаваць яго ў Расіі не выгадна.

Па-ранейшаму працягваецца бадание Беларусі з Рассельгаснаглядам. Дня не праходзіць, каб у навінах не з'яўлялася інфармацыя пра тое, што гэтае расійскае ведамства завярнула на радзіму чарговую партыю прадуктаў «харчовага Клайдайку». То рээкспарт знойдуць, то сальманелу, то беларуская свініна ім не падабаецца... То бок, ні пра якія меркаваныя ў ЕАЭС «адзіныя правілы гаспадарання» гаворка не ідзе. Але Расія сама падклала гэтую бомбу пад інтэграцыйны праект, не параіўшыся з астатнімі ўдзельнікамі саюза пра санкцыі да заходніх харчоў.




Чарговы ўдар нанесла Кіргізія, якая вырашыла зноўку адкласці пытанне пра сваё прыяднанне да ЕАЭС. Выказаўшы жаданне стаць сябрам саюза, Кіргізія абумовіла сваё далучэнне захаваннем нацыянальных эканамічных інтарэсаў. Інтарэсы ж Кіргізіі пакуль не супадаюць з палажэннямі саюза. У прыватнасці, Кіргізія настойвае на захаванні льготных мытных пошлін у дачыненні да тавараў, якія завозяцца ў рамках інфраструктурных праектаў, аб якіх рэспубліка раней дамовілася з Кітаем, і... кіргізы зрабілі слушную выснову з беларускага «харчовага Клайдайку». Яны настойваюць на выключэнні айдыту сістэмы праверак ветэрынарнага кантролю ў рамках ЕАЭС «для ажыццяўлення свабоднага руху тавараў сельгасвытворцаў». То бок, падстрахоўваюцца ад санкцыяў Рассельгаснагляду.

> **Ад ЕАЭС карысці менш, чым небяспекаў**

Пакуль што адзіная карысць ад ЕАЭС у тым, што Беларусь атрымлівае ў свой бюджэт экспартныя нафтавыя пошліны, якія раней сплачвала ў бюджэт Расійскай Федэрацыі. Але ва ўмовах расійскага падатковага манеўру і рэзка патаннелай нафты і гэта — не ў тым аб'ёме, які быў запланаваны раней.

Але гэтая адзіная выгада больш чым кампенсуецца рызыкамі страты суверэнітэту.

Апошнім часам шмат хто загаварыў пра адзіную валюту ў межах ЕАЭС, што можа прывесці да страты эканамічнай, а потым і палітычнай незалежнасці. Тую пагрозу заўважыў нават былы прэм'ер Беларусі, а зараз старшыня Савета рэспублікі Міхаіл Мясніковіч. Паводле яго слоў, адзіная валюта на практыцы можа азначаць поўнае падпарадкаванне краін ЕАЭС інтарэсам дзяржавы з большай эканомікай і страту суверэнітэту. «Справы тут не абы-якія», — сказаў ён.

Карацей, пакуль ад ЕАЭС карысці менш, чым небяспекаў. Будучыня гэтага праекта няўцямная. Ён можа стаць намінальным, як Саюзная дзяржава. А можа ператварыцца ў клуб прэзідэнтаў без асаблівых абавязкаў, як СНД. Пакуль што для нейкага іншага сцэнару ЕАЭС падставаў не дае.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Рыгор Грык будзе аспрэчваць забарону пікета

**Лідар баранавіцкай прафсаюзнай суполкі РЭП Рыгор Грык 27 красавіка падаў скаргу ў суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы на рашэнне гарвыканкама аб забароне першамайскага пікета.**

«Я выканаў усе неабходныя ўмовы для правядзення масавага мерапрыемства: своечасова падаў заяву на пікет у гарвыканкам і асабістае абавязацельства, што самастойна будзе прыбрана тэрыторыя пасля правядзення пікета, а таксама створана група з 3-х чалавек для ажыццяўлення аховы грамадскага парадку. Таксама я заключыў неабходную дамову з гарадской паліклінікай па абслугоўванні нашай першамайскай акцыі салідарнасці працоўных, якая планавалася ў дазволеным гарвыканкамам месцы», — паведаміў Рыгор Грык.

Ён лічыць, што забарона пікета звязана не толькі з тым, што ўдзельнікі хацелі выказаць пратэст у сувязі з ростам коштаў і падзеннем заробкаў працоўных, але і з тым, што пікетоўшчыкі збіраліся патрабаваць адмены Дэкрэта №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымланства», які парушае правы грамадзян.

Усе папярэднія заяўкі на правядзенне масавых мерапрыемстваў у Баранавічах, звязаных з днём салідарнасці працоўных, на працягу апошніх 10 гадоў таксама былі забаронены.

### САЛІГОРСК. У кампенсацыі маральнай шкоды адмоўлена

**Намесніца старшыні суда Салігорскага раёна Ала Трафімчук не задаволіла пазоў салігорскага актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Уладзіміра Лемеша аб кампенсацыі маральнай шкоды, нанесенай яму аддзелам унутраных спраў Салігорскага райвыканкаму.**

Нагадаем, што яшчэ 27 верасня 2014 года моладзевы актывіст быў затрыманы супрацоўнікамі мясцовай міліцыі і абвінавачаны ў дробным хуліганстве. Пасля гэтага Уладзімір быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання, дзе ў прыніжаючых чалавечую годнасць умовах знаходзіўся двое сутак. 29 верасня маладзён быў囲 аштрафаваны судом Салігорскага раёна на 300 тысяч беларускіх рублёў. Аднак пасля абскарджвання справы ў Мінскім абласным судзе і паўторнага яе разгляду 5 студзеня 2015 года быў прызнаны невінаватым.

Маючы апраўдальны вердыкт, Лемеш накіраваў у суд два пазовы супраць мясцовага аддзялення міліцыі. Актывіст запатрабаваў ад міліцыі афіцыйных выбачэнняў за нанесеную маральную шкоду і кампенсацыю ў 20 мільёнаў рублёў.

На судовым пасяджэнні, якое адбылося 24 красавіка, інтарэсы пазоўніка прадстаўляў Леанід Мархотка з Беларускага Хельсінкскага Камітэта. Па словах праваабаронцы, суддзя не прыслухалася да яго аргументацыі і не задаволіла патрабаванне аб кампенсацыі маральнай шкоды. Адмову ў задавальненні пазова плануецца абскардзіць у вышэйшай інстанцыі пасля атрымання матывіровачнай часткі да судовага рашэння.

### СЛОНІМ. Шахматны турнір — пад забаронай

**Вядомаму слонімскаму шахматысту і грамадскаму актывісту Уладзіміру Літвіну Слонімскі райвыканкам не дазволіў правесці ў нядзелю, 26 красавіка, шахматны турнір сярод моладзі, прысвечаны наданню Слоніму Магдэбургскага права.**

Пры гэтым за месяц была дамова з мясцовымі спартыўнымі арганізатарамі мерапрыемстваў і з райвыканкамам. Тым болей, што ў турнір мясцовыя ўлады фінансаў не ўкладалі, гэта была ўласная ініцыятыва шахматыста.

Як і было дамоўлена, турнір павінен быў адбыцца ў Слонімскім раённым фізкультурна-спартыўным клубе па працы з насельніцтвам па месцы працы а 12-й гадзіне. Калі ў клуб пачалі збірацца юныя аматары шахмат і прыйшоў Уладзімір Літвін, клуб быў зачынены. Аказалася, што ўлада наладзіла свой турнір у гэты час у Цэнтры культуры. Усе пайшлі туды. Там Уладзімір Літвін прапанаваў арганізатарам даць дазвол на ўручэнне ад сябе асабіста падарункі лепшым шахматыстам. Намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Сяргей Юшкевіч сказаў, што ніякіх падарункаў не трэба, і стаў пагражаць выклікам міліцыі. І сапраўды, праз некалькі хвілін у Цэнтр культуры з'явілася некалькі амапаўцаў. Так ініцыятыва слонімца правесці ў горадзе шахматны турнір, прысвечаны гістарычнай падзеі, аказалася пад забаронай.

**spring96.org**

# Суд над Мікалаем Статкевічам адбудзецца 4 траўня

**Суд над палітвязнем Мікалаем Статкевічам па змене рэжыму адбыцця пакарання — з заменай яго на турэмны — адбудзецца 4 траўня ў Шклоўскай папраўчай калоніі №17. Пачатак у 14.30. Пра гэта ў Facebook паведаміла Марына Адамовіч.**

Падставай сталі нібыта шматлікія парушэнні правілаў унутранага распарадку калоніі і непадпарадкаванне патрабаванням кіраўніцтва.

Зусім нядаўна ў лісце жонцы Марыне Адамовіч ён паведаміў пра тое, што змешчаны ў памяшканне камернага тыпу (ПКТ).

«У суме ў яго набралася 13 спагнанняў, з якіх 10 — за адмову ад працы. Прычым апошнія 5 ягоных адмоў закончыліся звычайнымі вымовамі, бо раней усё, што можна было з пакаранняў, супраць яго ўжо ўжывалі», — цытуе словы палітвязня «Радыё Свабода».

Раней палітвязень Мікалай Статкевіч паведамляў, што яму пагражае ўзбуджэнне справы за шматлікія парушэнні рэжыму і адпраўка ў крытую турму як злоснага парушальніка рэжыму.

Мікалай Статкевіч — адзіны з былых кандыдатаў у прэзідэнты, які ўтрымліваецца дагэтуль у турме пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Суд прызнаў апазіцыйнага палітыка вінаватым у арганізацыі вулічных беспарадкаў і асудзіў на 6 гадоў зняволення. Мікалай Статкевіч не прызнаў сябе вінаватым і адмовіўся падаваць на імя Лукашэнкі прашэнне аб памілаванні. Мікалай Статкевіч адбываў пакаранне ў шклоўскай калоніі, затым рашэннем суда ад 12 студзеня 2012 года ўмовы адбыцця пакарання былі змененыя на больш жорсткія, яго перавялі з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 Магілёва.

12 студзеня 2015 года быў этапаваны для далейшага адбыцця пакарання ў шклоўскую папраўчую калонію №17.

**spring96.org**

# Андрэй Бандарэнка: «Сітуацыя шмат у чым стабілізавалася...»

**Днямі на адрас былога суддзі Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова прыйшоў ліст ад зняволенага праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі.**

Бандарэнка піша, што пасля пераводу з Бабруйскай калоніі ў Шклоў сітуацыя шмат у чым стабілізавалася, хоць ён працягвае знаходзіцца ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу).

Услед за зняволеным «прыйшлі» і друкаваныя выданні, якія ён выпісаў («Народная воля» і «Новы час»). Бандарэнка выказвае адзін аб магчымасці перападпарадкавання Дэпартамента выканання пакаранняў (ДВП). Праваабаронца лічыць, што «наўрад ці Мінюст сёння ў стане (...) прыняць у падпарадкаванне такое дзецішча...» На яго думку, сама пенітэнцыярная сістэма не гатовая да такога перападпарадкавання з шэрагу прычын. Па-першае, «з-за закасцянеласці і архаічнасці многіх нормаў, якія патрабуюць рэфармавання». Па-другое, «ментальна пенітэнцыярная сістэма знаходзіцца яшчэ далёка ад сістэмы выпраўлення».

У той жа час Бандарэнка не падзяляе сцверджанне калегі-праваабаронцы Уладзіміра Лабковіча, што «ДВП і ўся пенітэнцыярная сістэма ў цэлым накіраваны на рэпрэсіі і парушэнне правоў асуджаных». Ён адзначае, што ў дзеючай сістэме адбыцця пакаранняў у выглядзе пазбаўлення волі маюцца розныя перагіны і злоўжыванні, але гэта, хутчэй, асобныя выпадкі. У той жа час праблем застаецца шмат, і іх трэба вырашаць на заканадаўчым узроўні, лічыць Бандарэнка.

14 красавіка Бандарэнка сустрэў «за кратамі» свой дзень нараджэння. Прачытаўшы ў газеце «Свабодныя навіны плюс» аб пажаданнях Міхаіла Пастухова, ён выказвае свае пажаданні. Сярод іх: больш хуткае ўсведамленне беларусамі сваёй грамадзянскай адказнасці; аднаўленне ў краіне законнасці; паляпшэнне дабрабыту людзей; здабыццё волі і шчасця. І яшчэ адно жаданне — хутчэй убачыць жонку і дачку Машу.

Андрэй Бандарэнка быў пераведзены ў шклоўскую з папраўчай калоніі № 2 Бабруйска 2 сакавіка з меркаванняў бяспекі. У бабруйскай калоніі, дзе праваабаронца адбываў пакаранне з канца кастрычніка 2014 года, у яго ўзнік канфлікт з некаторымі вязнямі.

У шклоўскай калоніі Бандарэнка таксама напісаў на імя адміністрацыі заяву з просьбай утрымліваць яго ў ПКТ, каб пазбегнуць магчымых канфліктаў з вязнямі.

Андрэй Бандарэнка — стваральнік установы «Платформ інавэйшн», якая займаецца абаронай правоў чалавека ў месцах пазбаўлення волі. 12 жніўня 2014 года суд Кастрычніцкага раёна Мінска прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні хуліганства, злоснага хуліганства і асабліва злоснага хуліганства (часткі 1, 2 і 3 артыкула 339 КК) у дачыненні да трох грамадзян. Бандарэнку асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, але ў сувязі з амністыяй тэрмін быў скарочаны да трох гадоў.

**Уласная інфармацыя**

# За здзек з Курапатаў — да крымінальнай адказнасці

Марат ГАРАВЫ

**З прапановай прыцягнуць да крымінальнай адказнасці асоб, якія спрычыніліся да ўзвядзення аб'екту прыдарожнага сервісу, звярнуліся да генпракурора грамадскія актывісты.**

У заяве, накіраванай у Генпракуратуру 27 красавіка, адзначаецца, што Курапатам нададзены статус гісторычна-культурнай каштоўнасці І катэгорыі і зацверджаны яе межы, вызначаныя Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на падставе археалагічных даследаванняў.

Аўтары заявы нагадваюць, што ўвосень 2012 г. СТАА «БелРэстІнвест» узвяло ў непасрэднай блізкасці ад Курапатаў аб'ект прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол». Пад сціплай назвай аб'екту прыдарожнага сервісу насамрэч пабудаваны сапраўдны рэстаранна-забаўляльны комплекс з рэстаранам на 100 пасадачных месцаў, лазняй, чатырма дамкамі модульнага тыпу і дзіцячай пляцоўкай, падкрэсліваецца ў заяве.

На меркаванне грамадскіх актывістаў, рэстаранна-забаўляльны комплекс, узведзены побач з Курапатамі, з'яўляецца здзекам з велічнага помніка трагедыі беларускага народу і своеасаблівым цынічным выклікам духоўным традыцыям нацыі з яе паважлівым стаўленнем да памяці продкаў. Апроч таго, комплекс стварае непасрэдную пагрозу Курапатам, бо павялічвае антрапагенны ціск на ўрочышча, гаворыцца ў заяве.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не так ужо ўсё і добра

Сяргей САЛАЎЁЎ

**За штодзённымі клопатамі мы часам не можам абстрагавацца і ахапіць у цэлым малюнак таго, што адбываецца з Радзімай і з намі. Але такі «погляд звонку» часам неабходны. Бо апошнімі днямі мы неяк супакоіліся, і за знешне нармальнай сітуацыяй у краіне не заўважаем трывожных і крызісных выклікаў.**




Непакоіцца ёсць пра што. Першы паказчык для трывогі — гэта змяншэнне насельніцтва Беларусі. Калі раней нашае кіраўніцтва казала, што «нараджальнасць павышаецца, а значыць, людзі бачаць перспектыву», то бок мы ідзем у правільным кірунку — дык зараз такога няма. Паводле апошніх дадзеных Белстата, у студзені — сакавіку 2015 года натуральнае змяншэнне насельніцтва склала 4 739 чалавек. Здавалася б, не вельмі шмат? Але калі палічыць у працэнтах, то ў параўнанні з адпаведным перыядам 2014 года яно павялічылася на 30,9%!

У крызісных паказчыках сваю ролю адыграў знакаміты дэкрэт аб лайдаках. Мы раней ужо казалі пра тое, што ён падрывае адзін з асноўных паказчыкаў дабрабыту сацыяльнай дзяржавы — узровень беспрацоўя. Дык вось, усё ж такі яго падарвалі. Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, колькасць зарэгістраваных беспрацоўных на канец сакавіка 2015 года склала 39 тысяч, што на 73,1% больш, чым на канец сакавіка 2014 года, і на 8,6% больш, чым на канец лютага 2015 года.

Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец сакавіка 2015 года склаў 0,9% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец сакавіка 2014 года — 0,5%).

І гэта яшчэ не канец, таму што Міністэрства працы не лічыць «схванае беспрацоўе» — то бок тых, хто знаходзіцца ў вымушаных адпачынках, «прастоях» і працуе няпоўны тыдзень. Такіх у нас багата, і такіх падлічыў Сусветны банк.

У запісцы Сусветнага банка па пытаннях трансфармацыі рынку працы, прэзентацыя якой адбылася 27 красавіка ў Мінску, зазначаецца, што ў выпадку ліквідацыі «залішняй колькасці работнікаў на дзяржаўных прадпрыемствах» (лішняя — гэта тыя, хто ў вымушаных адпачынках, чыя праца непатрэбная) узровень беспрацоўя ў Беларусі можа павялічыцца на 4,2%, і такім чынам дасягне 5%. А можа і больш, паколькі, па падліках эканамістаў Сусветнага банка, залішняя колькасць работнікаў на дзяржпрадпрыемствах складае ў сярэднім каля 10%. Пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне, на думку экспертаў СБ, змусіць прадпрыемствы пазбавіцца ад «лішніх ратоў».

Канешне, Сусветны банк толькі канстатуе балячкі беларускай сацыяльна арыентаванай мадэлі і «прапісвае» ёй рынкавыя рэформы. Але хворы наўрад ці будзе прымаць гэтыя лекі, бо адмаўляецца ўсвядоміць сваю хваробу. Улады працягваюць крычаць пра «асаблівы беларускі шлях» і «сацыяльную дзяржаву» ў той час, калі ад гэтага «сацыялізму» засталіся рожкі ды ножкі. А таму дзяржава, асабліва напярэдадні выбараў, будзе падтрымліваць існаванне «лішніх ратоў» на прадпрыемствах — абы толькі не абрынуўся міраж «беларускай мадэлі развіцця».

А таму, згодна з прагнозамі таго ж Сусветнага банка, нас чакае эканамічны спад, які пачнецца ўжо ў гэтым годзе. Яшчэ напачатку 2015 года СБ даваў Беларусі прагноз росту ў 1,8%. Зараз, улічыўшы нашу сацыяльную мадэль, інфляцыю і зніжэнне коштаў на нафту, ён прагназуе, што ВУП сінявокай у рэальным выражэнні паменшыцца на 3,5% у 2015 годзе і на 1% у 2016 годзе.

«Улічваючы, што прадукты нафтаперапрацоўкі складаюць адну шостую частку прамысловага выпуску і больш за трэціну беларускага экспарту, а цэны на нафту прагназуюцца на нізкім узроўні, гэта акажа неспрыяльнае ўздзеянне на знешнія рахункі, даходы бюджэту і, як вынік, на эканамічны рост», — гаворыцца ў аглядзе банка.

Так што пра развіццё краіны казаць не даводзіцца. Дый якое можа быць развіццё, калі з краіны збягае бізнес? І не проста бізнес, а дзяржаўныя прадпрыемствы і «флагманы беларускай эканомікі»! Не верыце?

Цікавую навіну на тыдні паведаміла «Радыё Свабода». Аб'яднанне «Гомсельмаш» заявіла аб стварэнні ў Кітаі двух новых заводаў па вытворчасці камбайнаў. «Гомсельмаш» збіраецца выпускаць камбайны сумесна з кітайскай карпарацыяй «Цзуншэн». Як паведаміў прадстаўнік прадпрыемства, заводы будуць адкрыты ў кітайскіх правінцыях Ганьсу і Хэбэй. Кітайская дзяржава вылучыла там па 20 гектараў — для «Гомсельмаша» і Мінскага трактарнага завода, каб выраблялі камбайны і трактары, прычым плошчы дадзеныя на ільготных умовах.

У той жа час, прадпрыемствы аб'яднання ў Гомелі ўжо больш за год працуюць у скарочаным рэжыме — чатыры і нават тры дні ў тыдзень. Рабочых рэгулярна адпраўляюць у вымушаныя адпачынкі. З пачатку года з «Гомсельмаша» звольнілі больш за сто чалавек, і звальненні маюць устойлівы характар. Па Гомелі ходзяць размовы пра тое, што для нармальнай працы з прадпрыемства павінны звольніць 5 тысяч чалавек — гэта палова працоўных «Гомсельмаша».

На МТЗ сітуацыя не лепшая. А калі яны ствараюць СП у Кітаі, значыць, у Кітаі ім працуецца лепш? Значыць, «флагманы» бягуць у Кітай? А як жа «беларуская мадэль» і «сацыяльна арыентаваная дзяржава»?

Пакуль іншыя бягуць з карабля, ёсць і добрыя навіны. На святкаванні перамогі над фашызмам беларускі пакет прамацкі лягчэй — Беларусь канчаткова адмовілася ад спрэчнай «георгіеўскай стужкі» як сімвалу перамогі. Арганізацыям гандлю ўжо разасалалі лісты з указаннем прадаўцам упрыгожыць форменную вопратку чырвона-зялёнымі бутаньеркамі з вывай яблыневай кветкі, а на Дзень Перамогі чырвона-зялёныя стужачкі бясплатна раздаваць ветэранам.

Купіць стужачкі для супрацоўнікаў прадпрыемства павінна за свой кошт, як і тыя стужачкі, што бясплатна будуць раздаваць 8 і 9 мая. Выпускам новага сімвала займаецца некалькі прадпрыемстваў. Да прыкладу, магілёўская «Стужка» да 9 мая выпусціць 200 тысяч бутаньерак. Адпускная цана — 10.200 рублёў. Такім чынам, «Стужка» здолее зарабіць 2 мільярды рублёў.

Неблагая спроба падтрымаць легпрам. Трэба прыдумаць такія ж сімвалы і на іншыя святы.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Яраслаў Берніковіч

**Глыбоцкі актывіст падаў у суд на ЖКГ і выйграў 50 мільёнаў рублёў.**

Аўтамабіль Яраслава Берніковіча «Volvo S60» наляцеў на люк, які рамонтнікі пакінулі тырчэць на глыбоцкай вуліцы, зняўшы асфальтавае пакрыццё. У аўтамабіля было разбітае лабавое шкло, пашкоджаныя падвеска, мацаванні рухавіка, утварылася трэшчына ў каробцы перадач.

Берніковіч вырашыў судзіцца з ЖКГ, бо дарога належала менавіта яму. «Я не разумею людзей, якія не наважваюцца судзіцца ў такіх выпадках. Я ж у Глыбокім грамадскімі справамі займаюся з канца 90-х гадоў. Было б сорамна, калі б я ў сваёй справе адступіўся», — тлумачыць ён.

Яраслаў па выніках незалежнай экспертызы, якой дамогся сам, прасіў ад ЖКГ кампенсацыі 70 мільёнаў рублёў. Раённы суд знізіў суму кампенсацыі для Берніковіча да 50 мільёнаў рублёў. Яраслава гэта задаволіла, а вось пракуратура Глыбокага падала на рашэнне касацыйную скаргу ў Віцебскі абласны суд. Але і ў гэтай інстанцыі пакінулі рашэнне раённага суду ў сіле.

Частку сумы іску за 10 месяцаў цяжбы з'ела дэвальвацыя. Берніковіч адзначае, што матэрыяльная кампенсацыя для яго — гэта не галоўнае. «Пасля маёй заявы па ўсім Глыбокім люкі праверылі і зрабілі такімі, як трэба», — цешыцца Яраслаў.

## Сяргей Калякін

**Лідар партыі левых «Справядлівы свет» вырашыў балатавацца на пасаду прэзідэнта ў гэтым годзе.**



Так вырашыла партыя. Але, як і іншыя прэтэндэнты, перамагаць у прэзідэнцкай кампаніі ён не збіраецца.

Пленум ЦК, які складаецца з 41 чалавека, вырашыў прапанаваць з'езду вылучыць у якасці кандыдата ад партыі Сяргея Калякіна. «Мы рэальна разумеем, што наш прадстаўнік, як і любы іншы прадстаўнік ад апазіцыйных структур, не мае шанцу выйграць прэзідэнцкія выбары ў гэтым годзе, таму што выбараў няма. Але для таго, каб прасунуць сваю партыю і вырашыць партыйныя пытанні, мала толькі заявіцца. Мы лічым, што ў нас абавязкова павінен быць зарэгістраваны кандыдат. Мы абавязаныя і плануем сабраць неабходныя подпісы. Мы пралічылі гэтыя рэчы — мы збяром подпісы і зарэгіструем нашага кандыдата. Толькі тады будзе сур'ёзная праца па прасоўванні і прапагандзе нашай партыі і нашых ідэяў. А проста заявіцца і сказаць, што мы пойдзем, а пасля не сабраць подпісы — гэта нас не задавальняе», — паведаміў «Радыё Свабода» намеснік старшыні партыі Валер Ухналёў.

Канчатковае рашэнне пра вылучэнне Калякіна зробіць з'езд Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», які адбудзецца 23–24 мая.

## Зміцер Вайцюшкевіч

**Вядомы беларускі музыка ўпершыню прадставіць альбом у Вільні.**



Канцэртная прэзентацыя новага альбома «Наша песня» пройдзе ў літоўскай сталіцы 6 чэрвеня. Уладальнікам квіткоў будзе забяспечана бясплатная віза.

«Плануем вялікую двухгадзінную праграму з двух аддзяленняў. Першае — прэм'ера новага альбома на вершы беларускіх паэтаў. Другое — лепшыя песні розных гадоў, — распавёў TUT.BY Вайцюшкевіч. — Гэта будзе прыгожае выступленне поўным складам WZ-Orkiestra. Нягледзячы на ўсе знешнія абставіны, падтэкст канцэрту, як і альбома, будзе пазітыўны, лірычны і жыццесцвярджальны. Вясна ж на двары!»

Зміцер Вайцюшкевіч — адзін з галоўных прадстаўнікоў сучаснай беларускай нацыянальнай песні. На яго рахунку паўтара дзясятка альбомаў канцэртных праграм на вершы беларускіх паэтаў — Камоцкага, Барадуліна, Някляева, Бураўкіна, а таксама замежных (японскіх, шведскіх, польскіх) паэтаў у перакладзе на беларускую мову.

Многія нават жартуюць, што для прапаганды беларускай паэзіі і мовы Вайцюшкевіч зрабіў значна больш, чым міністэрства культуры.

а Азбука паліталогіі

# Галоўнае свята



Сяргей НІКАЛЮК

**Манаполія на ўладу немагчымая без прыватызацыі гісторыі. Тут варта прыгадаць Оруэла: «Хто валодае сучаснасцю, той валодае мінулым, а хто валодае мінулым, той валодае будучыняй».**

Раз на год НІСЭПД складае рэйтынг даверу да дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў. У тройцы лідараў разам з праваслаўнай царквой нязменна аказваецца армія. Адкуль такая папулярнасць у народа, чый нацыянальны гімн пачынаецца словамі: «Мы, беларусы, — мірныя людзі»?

Пачну з эканамічнага парадоксу. Здабываючы каля 1,5 мільёна тон нафты на год, рэспубліка-партызанка экспартуе 13–14 мільёнаў тон нафтапрадуктаў. Як такое магчыма?

З фармальнага пункту гледжання зразумець гэты парадокс вельмі проста. На тэрыторыі Беларусі яшчэ ў савецкі час былі пабудаваныя два магутныя нафтаперапрацоўчыя заводы. Але навошта? У БССР да распаду Савецкага Саюза на 1000 жыхароў прыходзілася менш за 50 легкавых аўтамабіляў. Сёння — каля 300. Савецкі Саюз нафтапрадукты не экспартаваў. Дык хто ж іх спажываў? Галоўным спажыўцом была армія. Пад кожным беларускім кустом знаходзілася воінская частка.

Яшчэ адзін прыклад. У 1974 годзе я скончыў хімічны факультэт БДУ. Адначасова з дыпломам мне ўручылі ваенны білет лейтэнанта хімічных войскаў. Усе савецкія маладыя людзі ў ВНУ паралельна асвойвалі воінскія спецыяльнасці.

Пасля заканчэння універсітэта і да распаду Савецкага Саюза ў 1991 годзе я прапрацаваў на прадпрыемстве электроннай прамысловасці (ПА «Інтэграл»), што спецыялізавалася на выпуску электронных кампанентаў для сістэм узбраенняў.

Такім чынам, увесь савецкай перыяд майго жыцця быў звязаны з войскам. Пры гэтым у арміі я ніводнага дня не служыў.

### Пошлая дзяўчына Лізавета I

Расійская дзяржава на працягу 1000-гадовай гісторыі развівалася як мілітарысцкая. Сам факт наяўнасці магутнай арміі не робіць дзяржаву такой. Мілітарысцкая дзяржава — гэта такая дзяржава, у якой штодзённае жыццё не толькі падчас вайны, але і ў мірны час выбудоўваецца паводле ваеннага ўзору. Цывільнае насельніцтва пры гэтым кіруецца як армія.

Калі мы звернем свой погляд у мінулае, дык убачым, што ў маскоўскай Русі ўсё насельніцтва падзялялася на камандзіраў, салдат і работнікаў. Задача работнікаў заключалася ў тым, каб карміць камандзіраў і салдат. Такая сацыяльная структура захоўвалася да канца XX стагоддзя.

Мілітарызацыю жыццёвага ўкладу перадае мова. Усё, што адбывалася ў СССР, афіцыйна называлася «барацьбой» і «штурмам». У тэлевізійных навінах уборка ўраджаю падавалася як «бітва за ўраджай». Школьнікі на ўроках літаратуры пісалі сачыненні на тэму *«Из одного металла льют медаль за бой, медаль за труд»*. Савецкая дзяржава клапацілася пра здароўе насельніцтва, але толькі таму, што мела патрэбу ў здаровых салдатах.

Сацыяльная сістэма, кіраваная як армія, несумяшчальная з рынкам. Такім чынам, яна несумяшчальная з прыватнай уласнасцю. Яшчэ ў XIX стагоддзі англійскі філосаф Герберт Спенсер паказаў на наяўнасць двух тыпаў сацыяльнай арганізацыі — «ваяўнічай» і «прамысловай». Адпаведна, двух тыпаў кааперацыі — «гвалтоўнай» і «добраахвотнай». Прыклад першага тыпу — армія, дзе людзі падпарадкоўваюцца загадам, а ўсе рэсурсы размяркоўваюцца адміністрацыйнымі метадамі. Прыклад другога тыпу — кантрактная сістэма, у якой вытворцы і спажыўцы добраахвотна абменьваюцца паслугамі.

Спенсер лічыў, што «ваяўнічы» тып сацыяльнасці прайшлі ўсе народы. Прыгадаем сярэднявечную Еўропу. Феадалізм уяўляў сабой адну з мадэляў мілітарысцкай арганізацыі дзяржавы і соцыуму. Феадалы валодалі зямлёй у абмен на службу. Але ў феадальнай іерархіі ў васалаў былі не толькі абавязкі, але і правы.

У гэтым сэнсе на Русі феадалізму ніколі не было. Адзін прыклад. У брытанскіх архівах быў знойдзены ліст цара Івана Жахлівага каралеве Лізавеце I. Ён быў напісаны 28 кастрычніка 1570 года. Прывяду самы яркі фрагмент ліста: *«У тебя люди торговые думают не о государственной выгоде, а о своей личной. И потому есть ты пошлая девица»*.

А цяпер перанясемся ў сучаснасць. *«Если государство скажет, что я должен отказаться от компании, я откажусь. Я сразу все отдам»*. Гэта выказванне аднаго з найбагацейшых людзей Расіі, «алюмініевага караля» Алега Дзерыпаскі.

### Дэмілітарызацыя як праблема

Для разумення вастрыні сучаснага моманту звернемся да прыказкі: «Перажылі голад, перажывем і багацце». Дзіўная, на першы погляд, прыказка. Атрымліваецца, што простаму чалавеку жыць лягчэй ва ўмовах нястачы, чым ва ўмовах эканамічнага росквіту.




Усё лагічна. Мілітарысцкая дзяржава можа быць стабільнай толькі ва ўмовах надзвычайнага становішча, вышэйшай праявай якога з'яўляецца вайна. Вайна апраўдвае поўнае бяспраўе чалавека перад дзяржавай. Вайна апраўдвае прымусовае пераразмеркаванне рэсурсаў. Вайна не патрабуе ад чалавека выбару. Ён павінен проста выконваць каманды.

Мілітарызм, як і разруха, — не ў клазетах, а ў галовах. Таму ва ўмовах міру звыклыя каштоўнасці руйнуюцца. Гераізм і барацьбу за агульныя інтарэс пачынаюць выцясняць інтарэсы прыватнага жыцця. Але задавальняць такія інтарэсы мілітарысцкая дзяржава не здольная па вызначэнні. Няма рынку. Такім чынам, няма і механізму зваротнай сувязі з матэрыяльнымі інтарэсамі простых людзей.

Ва ўмовах надзвычайнага становішча фармуецца эліта, здольная адказваць на знешнія і ўнутраныя пагрозы. У дэмакратычных дзяржавах адбор лепшых ва ўладу ажыццяўляецца праз механізм выбараў. У мілітарысцкіх дзяржавах сама надзвычайная абстаноўка выштурхвала наверх тых, хто здольны браць на сябе адказнасць.

У канцы 1980-х гадоў Міхаіл Гарбачоў абвясціў палітыку разрадкі, палітыку дэмілітарызацыі. Амерыка перастала быць галоўным ворагам СССР, што стала адным з фактараў распаду савецкай імперыі. Няма ворага — няма і патрэбы ў аўтарытарнай дзяржаве.

Гарбачоў наіўна спадзяваўся, што дэмілітарызацыя краіны дапаможа вырашыць бягучыя праблемы. Але ён выпусціў джына з бутэлькі. Дэмілітарызацыя — гэта не рашэнне праблемы, гэта сама праблема.

Адна з базавых функцый мілітарысцкай дзяржавы палягае ў пераразмеркаванні рэсурсаў. У сацыяльнай сістэме, якая функцыянуе як армія, сацыяльнае расслаенне не можа выходзіць за пэўныя рамкі. Кожны салдат павінен атрымліваць сваю гарантаваную пайку. Пайка салдата не можа ў разы адрозніваццa ад пайкі афіцэра. Нагадаю, у мілітарысцкай дзяржаве салдатамі з'яўляюцца ўсё. Толькі адны служаць у арміі, а іншыя на заводах.

Але што мы маем сёння? З канца XX стагоддзя свет жыве ва ўмовах адсутнасці пагрозы вялікай вайны. Да чаго гэта прывяло?

Па колькасці доларавых мільярдэраў Расія займае пятае месца ў свеце (108 чалавек у 2014 г.). На першым месцы ЗША — 515 мільярдэраў. У пяць разоў больш, чым у Расіі. ВУП ЗША таксама ў 5 разоў большы, чым у Расіі. Але гісторыя амерыканскіх мільярдэраў налічвае каля 100 гадоў. Першы быў Джон Ракфелер. У той жа час рускія стварылі свае багацці літаральна з нічога за 20 гадоў.

Зразумела, кіраваць сябрамі-мільярдэрамі можа толькі галоўны мільярдэр. Меркаванні экспертаў пра маёмасць Пуціна разыходзяцца. Сумы фігуруюць ад 40 да 200 мільярдаў долараў. Але ёсць рэчы, якія сучасная фотаапаратура дазваляе ацаніць дакладна. Гэта гадзіннікі. Афіцыйны даход Пуціна ў 2011 годзе склаў каля 120 тысяч долараў, а кошт калекцыі гадзіннікаў перавысіў яго гадавы даход у 6 разоў.

### Прыватызаваная Перамога

Дзяржаўная бюракратыя, сфармаваная ў надзвычайных умовах, здольная аддаваць і выконваць загады, але яна не ў стане функцыянаваць у прававым асяроддзі. Таму, як толькі пагроза вялікай вайны адпала, у краінах СНД пачалася дэградацыя нацыянальных уладных «вертыкаляў». Кожны чыноўнік на сваім працоўным месцы ператвараўся ў маленькага прэзідэнта. І ўсё, што сёння звязвае вялікіх і маленькіх прэзідэнтаў разам, — гэта барацьба за падтрыманне стабільнасці, пад якой яны разумеюць захаванне асабістай улады.

Ні пра якое развіццё пры гэтым не можа быць і гаворкі. Таму памерла ідэалогія, бо няма каму сфармуляваць вобраз будучыні. Эліты занятыя асабістым узбагачэннем. Узбагачаюцца яны не за кошт стварэння, а, у першую чаргу, за кошт раскрадання дзяржаўных бюджэтаў усіх узроўняў. І ў гэтым сэнсе яны могуць быць надзвычай эфектыўнымі. Адзін прыклад. Зімовыя Алімпійскія гульні ў Манрэалі каштавалі 6 мільярдаў долараў. У Сочы — больш за 50 мільярдаў. Ці адчуваеце розніцу?

Эліты, не здольныя сфармуляваць вобраз будучыні, спрабуюць прыватызаваць мінулае. Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне — яго цэнтральны апорны сімвал і падстава для нацыянальнага гонару.

«Дзень Перамогі, — адзначае дырэктар «Лявада-Цэнтра» Леў Гудкоў, — становіцца ўсё больш значным як у сістэме прапаганды, так і ў сістэме легітымацыі ўлады. Няма іншых падстаў, акрамя пастаянных адсылак да гэтай падзеі, да гэтай даты. Так адбываецца калектыўнае нацыянальнае самасцвярджэнне. Важна разумець, што гэта не толькі перамога над фашысцкай Германіяй, але і перамога над Захадам. СССР зрабіў тое, што не змаглі зрабіць усё іншыя заходнія краіны. Вельмі сімвалічная падзея».

Перамога, у яе афіцыйнай трактоўцы, — гэта заўсёды *«наша Победа»*, якую *«мы никому не отдадим»*. Адсюль пастаянныя заклікі ўвесці крымінальную адказнасць за фальсіфікацыю гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Пад фальсіфікацыямі, натуральна, маюцца на ўвазе любыя ацэнкі, якія супярэчаць ацэнкам прыватызатараў.

# Без цябе народ няпоўны

Сяргей ПУЛЬША

**Сёлетні «Чарнобыльскі шлях» — надзіва нешматлюдны, надзіва стандартны, надзіва сумны. Да таго ж, большасць апазіцыйных лідараў яго праігнаравалі, што ўвогуле вельмі дзіўна. Як гэта: не з'явіцца на традыцыйнае шэсце?**




Упершыню на маёй памяці колькасць удзельнікаў шэсця, падлічаных з боку міліцыі і з боку журналістаў, прыблізна супала. Паводле прэсы, у акцыі прыняло ўдзел каля 500 чалавек. Паводле дадзеных міліцыі, напачатку шэсця на вуліцы Сурганава было 330 чалавек, каля ўніверсама «Рыга» — прыблізна на палове маршруту — колькасць дэманстрантаў павялічылася да 400 чалавек, а напрыканцы шэсця, каля Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай, — зноў 300–310.

Адкуль у нас такія падрабязныя дадзеныя міліцыянераў? Ім проста трэба сцішваць рацыі. Гэтым разам міліцэйскую сувязь можна было пачуць ледзьве не за 50 метраў. А можа, гэтым разам дэманстранты папросту вельмі ціха выгукалі свае лозунгі...

«Абыякавасць да жыцця і схільнасць да самагубства», — гэтая класічная прыказка сёлета надзіва пасавала паводзінам беларускіх дэмакратаў. Між іншым, менавіта зараз «абыякавасць да жыцця», абыякавасць да «Чарнобыльскага шляху» амаль роўная «схільнасці да самагубства». На «Шлях» з'явіліся поўным складам арганізатары: Віталь Рымашэўскі, Павал Севярынец з БХД, Дзмітрый Кучук ад «Зялёных», Ігар Лялькоў і Аляксей Янукевіч ад БНФ. Былі таксама Аляксандр Лагвінец і Юрась Губарэвіч ад Руху «За свабоду». Астатнія лідары беларускіх дэмакратычных партый некуды падзеліся. Традыцыйную акцыю апазіцыі яны праігнаравалі.

Хай сабе Някляеў выйшаў з апазіцыі. А астатнія? На шэсці не было сцягоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, — а, між іншым, лідар АГП Анатоль Лябедзька збіраецца стаць прэзідэнтам. Яго чарнобыльскія праблемы не хвалююць? Сцягоў «Гавары праўду» таксама не заўважана — ці з сыходам Някляева гэтая структура перастала існаваць? Між іншым, з праўды пра Чарнобыль пачалася дэмакратызацыя Беларусі. Няўжо праўда — не пытанне «Гавары праўду»? А як жа «жанчына — кандыдат у прэзідэнты» Таццяна Караткевіч?

> **Між іншым, менавіта зараз абыякавасць да «Чарнобыльскага шляху» амаль роўная схільнасці да самагубства**

Хто б ні прыйшоў пасля Лукашэнкі, яму давядзецца разбірацца з Чарнобылем. І прыйдзецца рабіць гэта доўга-доўга. У будучым годзе споўніцца 30 гадоў аварыі на ЧАЭС. Гэтая аварыя прынесла ў арганізм беларусаў у тым ліку стронцый–90, які, як вядома, у костках замяшчае кальцый. І 30 гадоў — гэта перыяд паўраспаду гэтага самага стронцыю–90. Як ён будзе распадацца ў арганізме чалавека, што будзе з гэтым чалавекам, як і чым у выніку будзе хварэць ледзьве не паўкраіны?

Перыяд паўраспаду другога «асноўнага прадукту» Чарнобыля — цэзію–137 — таксама 30 гадоў. Так што хутка ў арганізмах беларусаў пачнецца ядзерная рэакцыя — пераражэнне назапашаных радыеактыўных элементаў.

Хіба гэта тое пытанне, якое можа абмінуць хаця б прэтэндэнт на прэзідэнта? Гэта ж ягоная асноўная будучая праблема?

Могуць. Абмінулі. Можа, нездарма сябры міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» выйшлі з крыўднай для тытульнай апазіцыі расцяжкай: «Game over. Вашая гульня скончана».

Бяздзейнасць, безыніцыятыўнасць, нямогласць і нягегласць апазіцыі зараз адзначаюць нават тыя, хто дзвюма рукамі галасуе за гэтую апазіцыю. «Хутка Рымашэўскі на пенсію выйдзе, мы ж сканаем, а ў краіне нічога не зменіцца!» — даставала Віталя Рымашэўскага сталая жанчына. «Сталая» ва ўсіх сэнсах: і сталая па ўзросце, і рэгулярная ўдзельніца апазіцыйных акцый — я яе бачу амаль на ўсіх мітынгах. Рымашэўскі спрабаваў аджатравацца, што яму на пенсію не хутка, але гэта ў яго не вельмі ўдала атрымлівалася. Сапраўды, калі «ігнорыць» традыцыйныя акцыі ў год выбараў, то што ад цябе як ад палітыка застанецца?

Дый грамадства да «Чарнобыльскага шляху» гэтым разам ставілася больш індыферэнтна, чым заўсёды. Відавочна, што людзям увогуле не нагадалі пра гадавіну Чарнобылю. Амаль ніхто з мінакоў не лаяўся на шэсце, якое сустракалася на шляху, але толькі адзін сказаў, што «сёння ж «Чарнобыльскі шлях». Астатнія рабілі фоты, сэлфі, нехта абазваў акцыю «Днём Волі»... Пра Чарнобыль згадвалі мала.

І нельга не адзначыць, што на гэтай акцыі было мала крэатыву. Раней былі яркія расцяжкі, дадавалі каларыту людзі ў адгазніках і масках (паглядзіце на фоты мінулагодняга «Шляху»), анархісты са сваімі барабанамі і бубнамі. Зараз — нічога. Цішыня і спакой.

«Без мяне народ няпоўны», — гэтае выслоўе апазіцыйным лідарам варта было б узгадваць не толькі тады, калі яны пратэстуюць супраць якога-небудзь дэкрэта ці ўказа. Гэтую фразу трэба ўзгадваць і тады, калі робіцца нешта такое, што проста вымагае іх прысутнасці. Бо палітыка — палітыкай, рознагалоссі — рознагалоссямі. Палітыкі прыйдуць і сыдуць, а вось Чарнобыль — застанецца. І застанецца (не толькі з намі, але і ў нас — у літаральным сэнсе гэтага слова) назаўсёды. Да канца жыцця.

На мітынгу была прынятая рэзалюцыя з патрабаваннямі спыніць будаўніцтва АЭС у Беларусі, раскрыць усю праўду аб наступствах Чарнобыля, спыніць асваенне і засяленне забруджаных тэрыторый, узнавіць перасяленне людзей з «зоны адсялення», вывесці з тэрыторыі Беларусі расійскія самалёты, здольныя несці ядзерную зброю, правесці дэмакратычныя рэформы і вызваліць усіх палітвязняў.

Але хто пры такім стаўленні дэмакратаў да акцыі будзе сачыць за выкананнем гэтай рэзалюцыі — як гаворыць адзін наш калега, пытаннечка...

# На пенсію не згодныя

Сяргей ПУЛЬША

**Падчас «Чарнобыльскага шляху» міжнароднае моладзевае аб'яднанне «Малады фронт» выйшла з расцяжкай, у якой было прапанавана канчаткова, без магчымасці ўзнаўлення, выдаліць усю тытульную беларускую апазіцыю. Менавіта так з кампутарнай мовы перакладаецца надпіс «Shift + Delete».**

Па словах аднаго з кіраўнікоў «МФ» Міколы Дземідзенкі, так рэагуе беларускае грамадства на нядзольнасць апазіцыі дамовіцца. Не дамовіліся ні пра Кангрэс дэмісілаў, ні пра адзінага кандыдата, што прывяло да сыходу з апазіцыі аднаго з самых рэйтынгавых яе асобаў — Уладзіміра Някляева. З-за гэтай нядзольнасці дамовіцца грамадства і расчаравалася ў апазіцыі. А значыць, апазіцыі час выдаліцца.

Лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч заявіў, што расцяжка «МФ» Партыю БНФ «ніякім чынам не закранае». «Бачна, што хлопцам захацелася нагадаць пра сябе, і нічога больш арыгінальнага яны не прыдумалі. Нельга сцвярджаць, што і рэч «Малады фронт» выяўляў прыхільнасць і давер да дэмакратычных партыяў. Я памятаю, яшчэ 10 год таму «МФ» заяўляў, што БНФ ужо не ўяўляе сабою нічога, пяць год таму гучалі такія ж ацэнкі да ўсіх апазіцыйных партыяў. Для нас гэта ні на што не ўплывае. Калі хлопцы пацешыліся — можна за іх парадавацца», — сказаў Янукевіч.

На ягоную думку, гэты лозунг таксама не сведчыць пра расчараванне дзеяннямі апазіцыі. «Хлопцы з «Маладога фронту», паўтаруся, знаходзяцца ў гэтым расчараванні мінімум 10 гадоў, нічога новага яны не канстатавалі», — кажа лідар БНФ.

Намеснік кіраўніка Руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч лічыць, што такія паводзіны «для некаторых арганізацый — магчымасць хаця б раз на год пра сябе заявіць». Што тычыцца агульнага расчаравання дзейнасцю апазіцыйных сілаў, то Губарэвіч гэтай думкі таксама не падзяляе. «Не ведаю, хто расчараваны. У сяброў нашай арганізацыі ад той дзейнасці, якую мы вядзем, расчаравання няма. У людзей, з якімі мы працуем у рамках кампаніі «Народны рэферэндум» і сабралі пад патрабаваннем рэферэндуму больш за 100 тысяч подпісаў, расчаравання няма. Яны бачаць нашу дзейнасць, яна відавочная. Таму я не ведаю, да каго гэтае пытанне», — заявіў Губарэвіч.

Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якой таксама прапанавалі «выдаліцца», Леў Марголін кажа, што да такой прапановы ставіцца «абсалютна спакойна». «У цэлым жа я адмоўна стаўлюся да адмоўных лозунгаў: «Далоў», «Прыбраць», «Зняць», «Закрыць». Калі цябе не задавальняе старая апазіцыя, — можа быць, мы сапраўды крыху састарэлі, — прапануйце нешта сваё. Не падабаецца вам, як мы працуем? Як казалі раней, «рабі з намі, рабі як мы, рабі лепш за нас». Калі ты не хочаш рабіць з намі ці рабіць як мы — зрабі лепш. Калі гэта атрымаецца — мы будзем толькі задаволеныя», — запэўнівае Марголін.




І расчаравання сярод сваіх сяброў Марголін таксама не заўважае. «Тыя, хто ў АГП, не расчараваліся ў партыі, інакш бы яны з яе выйшлі. А калі ў «Маладым Фронце» расчараваліся ў нашай партыі, то я не думаю, што яны калісьці былі ёю зачараваныя. Дый увогуле не такая ж гэта ўжо ўплывовая арганізацыя — «Малады фронт». Яшчэ дадам, што змагацца з апазіцыяй — старой, маладой, добрай, дрэннай, — гэта значна прасцей і бяспечней, чым змагацца з уладай», — падкрэслівае намеснік старшыні АГП.

З аднаго боку, лідары тытульнай апазіцыі ўпэўнена пацвердзілі: яны ведаюць, што робяць. З іншага — нельга не прызнаць, што сённяшні «Чарнобыльскі шлях» быў ледзьве не самым малакалькасным за ўсю ягоную гісторыю. І казаць пра «абсалютнае нерасчараванне» ўсё ж не выпадае.

Але як ва ўлады няма іншага народа, так у народа няма і іншай апазіцыі. Усе апошнія спробы стварыць «народную апазіцыю» скончаліся безвынікова: узгадаем, напрыклад, ініцыятыву былога кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна з ягонай «Воляй народу», да гэтага ж можна аднесці і «новую большасць» у яе кампаніі «Гавары праўду», і безліч іншых падобных ініцыятываў. І калі «выдаліць» старую апазіцыю, хто яе зменіць?

# Непаўналетнія ахвяры гвалту

Ганна МЫЗЕНКА

**Згодна з дадзенымі МУС, штодня ў Беларусі гвалтуюць хаця б адно дзіця. І бадай што адзіная грамадская арганізацыя, якая займаецца менавіта праблемай сексуальнага гвалту над дзецьмі, — МГА «Разуменне».**



## Самі вінаватыя

Калі мне было 13 гадоў, я ўпершыню ў жыцці пашыла сабе на ўроках працы кароткую спадніцу. Апранула яе і паехала ў горад. У аўтобусе раптам адчула, што мяне нехта мацае. Я напалохалася настолькі, што баялася паглядзець назад. Як варам аблітая, я кінулася да выхаду, па дарозе расштурхоўвала астатніх пасажыраў. Выскачыла не на сваім прыпынку. Мне было страшна, прыкра і брыдка. Астатні шлях да дому я ішла пешшу. Ані бацькам, ані настаўнікам я пра гэты выпадак не распавядала. У тым, што адбылося са мною, я лічыла вінаватай сябе, а спадніцу тую не любіла апранаць.

Толькі праз шмат гадоў я даведалася, што дзеці, якія адчулі на сабе сексуальныя дамаганні або гвалт з боку дарослых, вельмі часта рэагуюць менавіта гэткім чынам. Ім падаецца, што гэта яны самі былі прычынаю таго, што адбылося з імі. Менавіта таму выявіць факты сексуальнага гвалту над дзецьмі настолькі складана.

Напрыклад, статыстыка за 2013 год кажа, што колькасць выпадкаў сексуальнага гвалту над дзецьмі ў Беларусі дасягнула 389. Гэта толькі тыя, па якіх быў вынесены абвінаваўчы прысуд. Узнікае пытанне: колькі ж іх было насамрэч? «Памнажайце на 10 і не памыліцеся!» — кажуць адмыслоўцы.

## Не блытаць з хатнім гвалтам

На барацьбу з хатнім гвалтам ва ўсім свеце выдаткоўваюцца вялізарныя сродкі. Пра гэта шмат кажуць СМІ. Гвалт супраць дзяцей расцэньваецца як адзін з відаў такога гвалту. А між іншым, гэта розныя паняцці.

«Калі дзіця распавядае пра тое, што яго збілі, што яго цкуюць у школе або здзейснілі над ім сексуальны гвалт, у 99,9 працэнтах выпадкаў ён кажа праўду — сцвярджае Андрэй Маханько, кіраўнік Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Разуменне». — Маніпуляваць гэткімі рэчамі могуць хіба што падлеткі. Прычым адбываецца такое пад уплывам дарослых, якія хочуць мець з гэтага матэрыяльную карысць».

Таму спадар Андрэй настойліва раіць паверыць дзіцяці, якое скардзіцца на гвалт. Тым болей, што ёсць і ўскосныя прыкметы таго, што яно кажа праўду. Сярод такіх прыкметаў — прыгнечаны настрой, не ўласцівая ўзросту цікаўнасць да сексуальнага жыцця, замкнутасць ці, наадварот, ненатуральная распушчанасць паводзінаў дзіцяці.

Што рабіць у гэтым выпадку? Спадар Андрэй раіць пісаць заяву ў органы ўнутраных справаў або раённы аддзел Следчага камітэту. Бо без такой заявы ніхто не будзе нічога разглядаць. Калі за сцяной плача дзіця, і вы ведаеце суседа, то да яго, канешне, можна падысці і наўпрост. Баіцеся або не ведаеце суседа? Тэлефануйце ў міліцыю. Калі раней міліцыянты не рэагавалі на гэткія скаргі, то цяпер, хутчэй за ўсё, паставяцца да такога тэлефанавання больш уважліва. Следчая брыгада абавязкова мусіць адразу прыцягнуць да працы адпаведна падрыхтаванага псіхолага, які прафесійна правядзе апытанне.

## Цяжка даказаць

«Большасць справаў, звязаных з сексуальным злоўжываннем дзецьмі, цяжка даказаць, — распавядае начальнік аддзелу псіхолага-фізіялагічных даследаванняў галоўнага ўпраўлення судова-псіхіятрычных экспертызаў цэнтральнага апарату Дзяржаўнага камітэта судовых экспертызаў Рэспублікі Беларусь Людміла Мун. — Часцей за ўсё гвалтоўныя дзеі сексуальнага характару не суправаджаюцца фізічным гвалтам, то бок няма матэрыяльных слядоў. У нас застаюцца толькі словы дарослага і словы дзіцяці. Але да дзяцей ёсць пэўны недавер.

З другога боку, дарослы чалавек з дарослай логікай можа аргументаваць, выбудаваць уласную абарону. Дзіця не ўмее гэта рабіць, яно ў нявыгадный сітуацыі. Таму такія справы маюць патрэбу ў дадатковых доказах. Менавіта таму паводле ініцыятывы генеральнай пракуратуры, следчага камітэту і камітэту судовых экспертызаў з 1 снежня 2014 года існуе наш аддзел, у якім праводзяцца псіха-фізіялагічныя даследаванні, у тым ліку з выкарыстаннем паліграфа. Яны праводзяцца выключна ў дачыненні да падазраваных і абвінавачаных у сексуальных злачынствах супраць дзяцей».

Паводле статыстыкі, ахвярамі сексуальнага гвалту часцей робяцца дзяўчаты, у сярэднім сітуацыя сямейнага сексуальнага гвалту доўжыцца 5 гадоў. Самае цяжкое для ахвяры — тое, што маці не заўсёды становіцца на яе бок. «Сярод прычын, чаму маці не бароніць дзіця, не абавязкова эканамічныя матывы (у выпадку, калі абвінавачаны — кармілец сям'і) — працягвае Людміла Еносаўна, — гэта можа быць і рэўнасць да дзіцяці як сексуальнага канкурэнта або спроба пазбегнуць пачуцця вінаватасці».

Не менш цяжкая сітуацыя, калі на дзіця пачынаюць ціснуць сваякі абвінавачанага, якія хацелі б прыкрыць злачынцу.

Пры гэтым дзеці маюць патрэбу распавесці пра тое, што з імі адбылося. Аднак маўчаць, бо папросту няма каму, таму што найбольш блізкія людзі здрадзілі.

## Пакой апытання

Адзін з пакояў, дзе могуць спакойна выслухаць дзіця, знаходзіцца пры Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры псіхічнага здароўя. Першае, што кідаецца там у вочы — гэта велічэзнае люстэрка — на палову сцяны. Насупраць стол, канапа ды цацкі. Тут псіхолаг размаўляе з маленькай ахвярай. Па-за люстрам падчас апытання дзіцёнка знаходзяцца прадстаўнікі следчых органаў, міністэрства адукацыі, часам бацькі. Уся размова запісваецца на дзве камеры ды выводзіцца на кампутар, які таксама знаходзіцца па-за люстэркам. Адна камера здымае пакой цалкам, другая — дзіця буйным планам. Запіс размовы потым выкарыстоўваецца падчас следства і ў судзе. Гэткім чынам дзіця не будзе дадаткова траўмаванае шматлікімі допытамі ды апытаннем на судзе. Бо каля 10 працэнтаў псіхічных захворванняў, якія ўзнікаюць пасля сексуальнага гвалту, з'яўляюцца следствам не самога гвалту, а працэдуры расследавання гэтага гвалту.

У адказ на просьбу прывесці прыклады такіх размоваў, эксперты-псіхолагі дзяржаўнага камітэту судовых экспертызаў Анжэліка Назаранка ды Наталля Махнач толькі ўсміхаюцца. Прыводзіць прыклады з практыкі ім забаронена законам. Інакш гэта будзе разгалошваннем таямніцы следства.

Адзінае, што яны могуць парадаміць, дык гэта тое, што мусяць высвятліць дэталі ды акалічнасці таго, што адбылося з дзіцём. Алгарытм пытанняў да маленькай ахвяры пабудаваны такім чынам, каб высветліць максімальную колькасць інфармацыі.

«Існуе пэўная схема, — распавядаюць эксперты, — яна рухавая, бо мы мусім падладзіцца пад кожнае дзіця, улічыць ягоны ўзрост, асаблівасці, узровень развіцця, а самае галоўнае, для чаго існуе гэты пакой — гэта стварыць сяброўскую для дзіцяці атмасферу, у якой яно можа раскрыцца, распавесці ўсё, што з ім адбывалася». Менавіта дэталі сведчаць пра тое, што чалавек кажа праўду. Пытанні мусяць быць адкрытымі. Напрыклад, нельга спытаць, ці быў дарослы ў чырвонай кашулі, можна толькі спытаць, як ён быў апрануты?

За ўсю практыку ані Наталля, ані Анжаліка маленькіх сімулянтаў амаль не сустракалі, хаця ёсць і цяжкасці: «Часам бывае вельмі цяжка пабачыць або хлусню, або тонкую карэкціроўку сітуацыі. Але дзеля гэтага мы і навучаліся», — усміхаецца Наталля. «Адмыслоўцу адразу бачна нюансы, — працягвае Анжаліка. — Бываюць несупадзенні паміж фактамі, нейкая завучанасць, дзіця распавядае адно і тое ж, без падрабязнасцяў, вось тут ужо можна падазраваць нейкую фантазію або хлусню».

Вывадаў, ці сапраўды вінаваты чалавек, якому інкрымінуюць злачынства, псіхолагі-эксперты, аднак, не робяць, а толькі прадстаўляюць відэаматэрыялы следству.

Першы такі сяброўскі дзецям пакой з'явіўся ў Беларусі ў 2009 годзе. Цяпер у Беларусі ёсць 17 такіх пакояў.

## Што рабіць дзіцяці?

Калі дзіця дастаткова дарослае, каб тэлефанаваць некуды самастойна, то ў сітуацыі гвалту можа звярнуцца на круглясутачную дзіцячую лінію дапамогі 8-801-100-1611. Цягам трох гадоў яна фінансавалася праз міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Разуменне». Пасля заканчэння праекту лінія стала працаваць на базе Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру псіхічнага здароўя.

На словы Сяргея Осіпчыка, намесніка дырэктара па медычнай частцы цэнтру, за суткі тэлефануюць прыкладна 1–2 чалавекі. Гэта могуць быць як самі дзеці, так і дарослыя, якія сталі сведкамі гвалту над дзецьмі. Часцей за ўсё тэлефануюць увечары ды па выхадных.

На тэлефанаванні адказваюць адмыслова навучаныя працаўнікі цэнтру псіхічнага здароўя. Гэта можа быць як медычная сястра так і доктар, які заспеў тэлефанаванне. «Па-першае, трэба супакоіць дзіця. Мы маем спіс кропак, па якім мы пераразмяркоўваем гэтыя тэлефанаванні. Калі ёсць прыкметы складу крымінальнага злачынства, мы паведамляем у органы ўнутраных справаў», — распавядае Сяргей Іванавіч.

Пакуль дзіцячая лінія знаходзіцца ў прыёмным пакоі Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру псіхічнага здароўя. Таму, на вялікі жаль, адказаць на ўсе тэлефанаванні ў адмыслоўцаў цэнтру не атрымліваецца праз вялікую занятасць працаўнікоў.

Адзіны нацыянальны колцэнтр дзіцячай лініі пакуль толькі ў далёкіх планах арганізатараў. Як і шырокі распаўсюд інфармацыю пра дзіцячую лінію сярод насельніцтва. Дагэтуль тэлефон не ўнеслі ў спіс абавязковых нумароў, якія друкуюцца ў дзённіку вучня.

«Мы вывучылі некалькі мадэляў: амерыканскую, ісландскую, шведскую, брытанскую, — кажа Андрэй Маханько. — Мы паглядзелі, што дзе працуе, аб'ядналі і распрацавалі адзіную мадэль абароны дзяцей ад гвалту, яна ўключае дзіцячую лінію, пакоі апытання, лячэнне, плюс праца з дзецьмі, якія зніклі або эксплуатуюцца. Сёння гэтая мадэль прызнаная ва ўсім свеце, досвед пераймаюць ЗША. Нам далі дзве ўзнагароды за распрацоўку. А што нам гэтыя ўзнагароды, калі нашы беларускія дзеці не могуць скарыстацца нашым досведам?»

**ПАКОІ АПЫТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ**

| Мінская вобласць | Магілёўская вобласць | Гродзенская вобласць | Гомельская вобласць | Брэсцкая вобласць | Віцебская вобласць |
|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | Магілёў | Гродна | Гомель | Брэст | Віцебск |
| Жодзіна | | Ліда (у стадыі падрыхтоўкі) | Калінкавічы | | Наваполацк |
| | | | | | Чашнікі |

TV

## 4 МАЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Камедыя «Майскі дождж».
**11.00** 90 секунд.
**00.00** Навіны.
**00.40** Фільм-катастрофа «Метро».
**13.00** 90 секунд.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**16.00** 90 секунд.
**16.15** «Белорусское времечко».
**17.15** Хакей. Чэмпіянат свету. Расія - ЗША.
**19.35** Арэна.
**19.55** Ваенны дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар»
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.50** Дэтэктыўны серыял «След».
**00.30** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**00.55** Навіны.
**01.10** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** ОНТ пакажа. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Тацццяна Самойлава «Маіх слёз ніхто не бачыць».
**14.10** Тацццяна Самойлава «Ляцяць жураўлі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Жэня, Жэнечка і Кацюша».



**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік. «Друкаваны фронт».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** Шматсерыйны фільм «Дыверсант».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Тыдзень.
**09.25** Вялікі сняданак.
**10.05** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Дакладны сродак».
**14.45** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**15.50** Іншая краіна.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** « Званая вячэра «.
**18.30** «Наша Перамога».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Серыял «Замах».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** Фільм «Моцныя духам».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Знішчальнікі».
**10.55** Партызаны.
**11.55** Камедыя «Пакроўскія вароты».
**11.25** Тэлебарометр.
**14.20** Серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.40** Comedy Woman.
**17.55** Калажская крыніца.
**18.15** Людзі добрыя.
**18.35** АртКод.
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** КЕНО.
**21.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.35** Серыял «Знішчальнікі».

### 3 Беларусь

**07.30** Калейдаскоп.
**07.40** «Тэгеран-43». Ваенная драма. 1-я серыя (СССР-Францыя), 1980 г.).
**08.55** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**09.20** «Тэгеран-43». Ваенная драма. 2 серыя (СССР-Францыя), 1980 г.).
**10.30** «Культпрасвет».
**11.05** «Одры Хэпбёрн. Магія стылю». Дакументальны фільм.
**11.55** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.50** Калейдаскоп.
**13.00** «Яны змагаліся за Радзіму». Ваенная драма. Фільмы 1-ы і 2-гі (СССР, 1975 г.).
**15.35** «Камертон». Ягор Канчалоўскі.
**16.00** «Рокуэл Кент». Дакументальны фільм пра графіка, вядомага ілюстратара кніг, грамадскага дзеяча. Фільм першы.
**17.30** «Майскія зоркі». Ваенная драма (Чэхаславакія-СССР, 1959 г.).
**19.00** Калейдаскоп.
**19.10** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**19.35** «Аленяе паляванне». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.25** «Ляцяць жураўлі». Кінааповесць (СССР, 1957 г.).
**23.00** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Васіль Быкаў. Франтавыя старонкі». Дакументальны фільм.
**23.30** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Хакей. Чэмпіянат свету. Аўстрыя - Швецыя.
**09.30** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь - Славакія.
**11.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**12.10** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Латвія - Швецыя.
**19.25** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск).
**21.15** Хакей. Чэмпіянат свету. Канада - Чэхія.
**23.30** Час футбола.
**00.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Нарвегія - Фінляндыя.
**02.10** Еўрапейскі покерны тур.
**03.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Форум (ток-шоу).
**08.15** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** «Шахта № 8», дак. фільм.
**09.50** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**10.30** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**11.15** «Страчаныя жыцці», дак. фільм.
**12.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**12.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.05** «Станіслаў Шушкевіч», дак. фільм.
**13.50** Кінаклуб: «Анжэль і Тані».
**14.05** «Анжэль і Тані», маст. фільм.
**15.35** «Страчаныя жыцці», дак. фільм.
**16.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**17.05** «Час гонару», тэлесерыял.
**17.50** Мова нанова.
**18.10** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Форум (ток-шоу).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма). Трапіў пад скарачэнне: як атрымаць найболей ад страты працы? Ідзя для бізнесу: дзе яе ўзяць? Калі банк збанкрутаваў: як выратаваць свае ашчаджэнні?
**22.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.45** Кінаклуб: «Анжэль і Тані».
**23.00** «Анжэль і Тані», маст. фільм.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 5 МАЯ, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.50** Ваенны дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар»
**11.00** 90 секунд.
**00.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**16.00** 90 секунд.
**16.15** «Белорусское времечко».
**17.15** Хакей. Чэмпіянат свету. Данія - Беларусь.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Ваенны дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт»
**21.00** Панарама.
**21.45** Буйным планам.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**00.10** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Навіны.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** ОНТ пакажа. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Вайна і міфы».
**15.00** Прэм'ера «Эшалоны на Берлін».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.20** Зваротны адлік. Спіс Гімлера.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вайна машын. Т-34».
**21.40** Серыял «У вас будзе дзіця ...».
**23.40** «Вялікая вайна».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Серыял «Замах».
**10.10** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** « Званая вячэра «.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**14.00** «Дакладны сродак».
**14.50** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** « Званая вячэра «.
**18.30** «Наша Перамога».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Серыял «Замах».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**01.00** Дакументальны праект.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Знішчальнікі».
**10.55** Партызаны.
**11.25** Ваенная кінааповесць «Я цябе ніколі не забуду».
**13.05** Fitnews.
**13.35** Кіпень.
**13.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**15.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**17.55** Пульс.
**18.15** Уласны погляд.
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.25** Тэлебарометр.
**21.30** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** Футбол. «Ювентус» - «Рэал».
**23.50** Серыял «Знішчальнікі».

### 3 Беларусь

**07.30** Калейдаскоп.
**07.40** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 6-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**08.35** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**09.05** «Аленяе паляванне». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**10.15** «Кубанскія казакі». Музычная камедыя (СССР, 1949 г.).
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзянісава.
**12.30** Калейдаскоп.
**12.40** «Прыміце тэлеграму ў доўг». Дзіцячая камедыя (СССР, 1979 г.).
**13.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.30** «Ляцяць жураўлі». Кінааповесць (СССР, 1957 г.).
**16.00** «Душэўныя боепрыпасы». Дакументальны фільм пра ваенных журналістаў.
**16.30** «Рокуэл Кент». Дакументальны фільм пра графіка, вядомага ілюстратара кніг, грамадскага дзеяча. Фільм другі.
**18.00** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 6-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**18.55** Калейдаскоп.
**19.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**19.30** «Дзеля некалькіх радкоў...» Ваенная драма (СССР,1985 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.30** «На шляху ў Берлін». Ваенная драма (СССР, 1969 г.).
**23.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзянісава.
**23.25** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**05.05** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Гомель» - «Шахцёр» (Салігорск).
**09.45** Час футбола.
**10.30** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**00.00** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**16.45** Авертайм. ЧС-2015.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Швейцарыя - Германія.
**19.30** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**21.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Славакія - Славенія.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Швейцарыя - Германія.
**19.30** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**23.35** Стоп-кадр.
**23.55** Хакей. Чэмпіянат свету. Аўстрыя - Францыя.
**01.55** Еўрапейскі покерны тур.
**02.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.15** «Дом», серыял.
**12.40** Мова нанова: «Эканоміка».
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.15** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**13.55** Студыя «Белсат».
**16.20** Асабісты капітал.
**16.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.10** «Час гонару», тэлесерыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо.
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два (тэледыскусія).
**22.25** «Закапаная цывілізацыя», рэпартаж, рэж. Марыя Булавінская, 2015 г., Беларусь. Аўтары рэпартажу спрабуюць зафіксаваць вёску, якая неўзабаве знікне з мапы Зямлі. Зося Бабакова вяртаецца ў родную Рудню Стаўбунскую, што на Гомельшчыне, каб пабачыць апошніх мясцовых жыхароў ды адведаць могілкі, дзе навек засталіся родныя і блізкія..
**22.40** Дакументальная гадзіна: «Страчаныя жыцці», дак. фільм.
**23.25** Студыя «Белсат».

TV

## 6 МАЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.50** Ваенны дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт».
**11.00** 90 секунд.
**00.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**16.00** 90 секунд.
**16.15** «Белорусское времечко».
**17.15** Хакей. Чэмпіянат свету. Расія -Данія.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Ваенны дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Навіны.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** ОНТ пакажа. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Вайна і міфы».
**15.00** Прэм'ера «Вайна свяшчэнная».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.20** Зваротны адлік. Трасцянец. Алея смерці.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вайна машын. СУ-100».
**21.40** Шматсерыйны фільм «Маладая гвардыя».
**23.40** «Вялікая вайна».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Серыял «Замах».
**10.10** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** « Званая вячэра «.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Дакладны сродак.
**14.45** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** « Званая вячэра».
**18.30** «Наша Перамога».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Серыял «Замах».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**01.50** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Знішчальнікі».
**10.55** Партызаны.
**11.25** кінаэпапея «Блакада».
**13.25** Перазагрузка.
**14.10** Вышэй за дах.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.50** Рэпарцёр.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Тэлебарометр.
**21.30** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.45** Футбол. «Барселона» - «Баварыя».
**23.45** Серыял «Знішчальнікі».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Калейдаскоп.
**07.40** «Жаззф Бальзамо». Гістарычная драма. 7-я серыя, заключная (Аўстрыя, Францыя , 1972 г.).
**08.35** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**09.00** «Дзеля некалькіх радкоў...» Ваенная драма (СССР,1985 г.).
**10.15** «На шляху ў Берлін». Ваенная драма (СССР, 1969 г.).
**11.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Маланкіна.
**12.10** Калейдаскоп.
**12.20** «Чакай мяне». Ваенная драма (СССР).
**13.50** «Музеі Беларусі». Гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна».
**14.15** «Зачараваны хлопчык». Мультфільм.
**15.00** «Наперад у мінулае».
**15.25** «Размаўляем па-беларуску».
**15.35** «Пуцёўка ў жыццё». Драма (СССР, 1931 г.).
**17.05** «Рыхтар - чалавек-загадка». Дакументальны фільм. Фільм першы.
**17.55** «Жаззф Бальзамо». Гістарычная драма. 7-я серыя, заключная (Аўстрыя, Францыя , 1972 г.).
**18.55** Калейдаскоп.
**19.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**19.30** «Паляванне на адзінарога». Ваенная драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.30** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Балада пра салдата». Ваенная драма (СССР, 1959 г.).
**22.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Маланкіна.
**23.20** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**03.35** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**05.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Паўфінал. Ювентус - Рэал.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Хакей. Чэмпіянат свету. Данія - Беларусь.
**09.55** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**11.45** Казёл пра футбол.
**00.00** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**13.00** - 17.40 Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Швейцарыя - Латвія.
**19.25** Гандбол. Кубак Беларусі. Паўфінал. Кронан (Гродна) - БГК ім. Мяшкова (Брэст).
**21.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Швецыя - Канада.
**23.25** Гандбол. Кубак Беларусі. Паўфінал. Гомель - СКА (Мінск).
**02.50** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.15** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** «Закапаная цывілізацыя», рэпартаж.
**11.00** «Опера кунь-цюй», дак. фільм.
**11.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** Студыя «Белсат».
**12.50** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.20** Студыя «Белсат».
**15.40** Два на два (тэледыскусія).
**16.10** «Закапаная цывілізацыя», рэпартаж.
**16.30** «5 хвілін свабоды», дак. фільм.
**17.20** «Опера кунь-цюй», дак. фільм.
**17.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валерый Урублеўскі.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.35** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.50** Невядомая Беларусь: «Станіслаў Шушкевіч», дак. фільм.
**00.35** Студыя «Белсат».

## 7 МАЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.50** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт».
**11.00** 90 секунд.
**00.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**16.00** 90 секунд.
**16.10** «Белорусское времечко».
**17.15** Хакей. Чэмпіянат свету. ЗША - Беларусь.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Заходні фронт» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**21.55** Урачысты сход і святочны канцэрт прысвечаны гадавіне Перамогі.
**23.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** ОНТ пакажа. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Вайна і міфы».
**15.10** Прэм'ера «Маршалы Перамогі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Зваротны адлік «Хатынь».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера ОНТ «Трэба разабрацца».
**21.30** Шматсерыйны фільм «Маладая гвардыя».
**23.30** «Вялікая вайна».
**00.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Серыял «Замах».
**10.10** «Калі ласка, скардзіцеся».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Дакладны сродак».
**14.45** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**16.50** «Прыгоды дылетанта».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** « Званая вячэра».
**18.30** «Наша Перамога».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Серыял «Замах».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Абеліскі». Тэлесерыял.
**01.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**01.50** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Знішчальнікі».
**10.55** Партызаны.
**11.25** Кінаэпапея «Блакада».
**14.35** Беларуская кухня.
**15.10** Ікра.
**15.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**17.55** Рэгіянальныя праграмы.
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.30** Хачу ў тэлевізар!
**21.00** Цела чалавека.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**22.00** Футбол. «Севілья» - «Фіярэнціна».
**00.05** Хакей.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Калейдаскоп.
**07.35** «Чайкоўскі». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1969 г.).
**10.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**10.30** «Паляванне на адзінарога». Ваенная драма (СССР, 1989 г.).
**11.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці спевака, заслужанага артыста Беларусі Эдуарда Міцуля.
**12.10** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Балада пра салдата». Ваенная драма (СССР, 1959 г.).
**13.35** Калейдаскоп.
**13.45** «Спіс Кісялёва. Выратаваныя з аду». Дакументальны фільм пра партызана Мікалая Кісялёва.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.05** «Сіла веры».
**15.30** «Чайкоўскі». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1969 г.).
**18.00** «Рыхтар - чалавек-загадка». Дакументальны фільм. Фільм другі.
**18.50** Калейдаскоп.
**19.00** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**19.30** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Доўгія вёрсты вайны». Ваенная драма. Фільм «Жураўліны крык» (СССР, 1975 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.30** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Доўгія вёрсты вайны». Ваенная драма. Фільм «На ўзыходзе сонца» (СССР, 1975 г.).
**22.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці спевака, заслужанага артыста Беларусі Эдуарда Міцуля.
**23.05** П.І.Чайкоўскі «Шчаўкунок, ці Яшчэ адна калядная гісторыя». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**00.45** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.05** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Паўфінал. Барселона - Баварыя.
**09.55** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**00.00** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**16.45** Авертайм. ЧС-2015.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Чэхія - Францыя.
**19.25** Гандбол. Кубак Беларусі. Фінал.
**21.05** Тэніс. Турнір ВТА. Мадрыд.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Напалі - Днепр.
**00.00** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінляндыя - Славенія.
**02.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валерый Урублеўскі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.40** 54 % (публіцыстычная праграма).
**11.05** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**11.45** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 7: «Праз В'етнам у Кітай».
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валерый Урублеўскі.
**13.40** Студыя «Белсат».
**15.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.20** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**17.00** Мова нанова: «Эканоміка».
**17.15** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 7: «Праз В'етнам у Кітай».
**18.10** «Закапаная цывілізацыя», рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.50** «Што такое Галакост? «Клей для шпалераў», дак. фільм.
**23.50** Студыя «Белсат».

# Прафесар Вазнясенскі: «Я назаўжды палюбіў Беларусь»



**Пра літаратуразнаўцу, доктара філалагічных навук, прафесара Аляксандра Вазнясенскага (1888–1966) ёсць згадка ў Беларускай энцыклапедыі і ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». Але гэтага даволі мала, каб расказаць пра чалавека, які ўнёс значны ўклад у гісторыю беларускага літаратуразнаўства і тэатральнае мастацтва, хаця пражыў у Беларусі толькі 10 гадоў.**



Сяргей ЧЫГРЫН

## Сустрэча з Янкам Купалам

Нарадзіўся Аляксандр Вазнясенскі (Узнясенскі, Узнесянскі) у Сімбірскай губерні ў Расіі. Пасля заканчэння ў 1913 годзе славяна-рускага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта атрымаў там магчымасць навуковай падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Але Першая сусветная вайна прымусіла памяняць месца жыхарства, а таксама ўсе свае жыццёвыя планы. Спачатку працаваў асістэнтам, прыват-дацэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Растоўскага ўніверсітэта, а ў 1921 годзе па запрашэнні першага рэктара толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прыехаў у Мінск. Дацэнт, а з 1927 года прафесар БДУ.

Хутка вывучыў беларускую мову, шмат чытаў твораў беларускіх аўтараў, з многімі літаратарамі быў знаёмы асабіста, сябраваў. Вясной 1926 года, калі пачаў вывучаць творчасць Янкі Купалы, быў запрошаны песняром да сябе на кватэру на Кастрычніцкай вуліцы. «Я быў у яго каля дзвюх гадзін, — згадвае Вазнясенскі ў зборніку «Янка Купала». — Увесь час быў запоўнены ажыўленай размовай на літаратурныя тэмы. Гутарка пачалася з Лермантава, выданне якога (пад рэдакцыяй В.В. Калаша) ляжала на стале разам з другімі кнігамі ў некаторым, як кажуць, «лірычным» непарадку. Іван Дамінікавіч адразу пачаў гутарку аб рускім паэце. Ён выказаў захапленне ім, звярнуўшы ўвагу на станоўчыя здабыткі яго творчасці… Купала адзначыў пратэстоўчы пачатак у паэзіі Лермантава і, гаворачы аб гэтым, закрануў у той жа сувязі Пушкіна і Някрасава. Затым размова перайшла да класікаў сусветнай літаратуры. Былі закрануты імёны Шэкспіра, Шылера, Гётэ, Байрана, Беранжэ, Міцкевіча і шмат іншых. Я выйшаў ад беларускага паэта і быў здзіўлены яго надзвычай шырокім літаратурным даляглядам, яго глыбокім веданнем літаратуры, яго ўменнем разумець сутнасць і значэнне кожнага мастака. Маё наведванне засталося незабыўным».

У 1920-х гадах Аляксандр Вазнясенскі шмат пісаў і друкаваўся. У часопісах «Полымя», «Узвышша», «Крывіч», «Маладняк», у «Працах БДУ». Ён аналізаваў творчасць Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, даючы параўнальна-тыпалагічную характарыстыку іх творчасці ў кантэксце еўрапейскіх літаратур. У часопісе «Полымя» за 1929 год апублікаваў сваё вялікае даследаванне "Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа".

## Захапленне беларускім тэатрам

Працуючы ў Белдзяржуніверсітэце, Аляксандр Вазнясенскі даследаваў гісторыю беларускага тэатра, а таксама беларускі тэатр 1920-х гадоў. Сам крытык прымаў актыўны ўдзел у рабоце тэатральнай падсекцыі Інбелкульта, добра ведаў тагачаснае тэатральнае жыццё. Як адбітак з часопіса «Узвышша», у 1927 годзе выйшла яго праца пра сучасны беларускі тэатр за 1921–1926 гады, а ў красавіку 1930 года «Маладняк» апублікаваў яго артыкул «Перспектывы сучаснага беларускага тэатра».

Чэрвеньскі нумар часопіса «Узвышша» за 1929 год вынес на суд чытачоў цікавае даследаванне Аляксандра Вазнясенскага «Другі Беларускі Драматычны Тэатр». Даследчык расказаў пра станаўленне калектыву БДТ, прааналізаваў яго рэпертуар, рэжысёрскае і акцёрскае майстэрства, сцэнаграфію, спыніўся на п'есах В. Шашалевіча «Апраметная», А. Глобы «Астап», М. Грамыкі «Каля тэрасы» і іншых драматургаў.

## Высылка

У 1930 годзе прафесару Вазнясенскаму ДПУ БССР загадала пакінуць тэрыторыю Беларусі. Пакуль што гэта была высылка ў Маскву. У сталіцы Аляксандр Вазнясенскі ўладкаваўся на працу ў Маскоўскі гарадскі педагагічны інстытут, пасля працаваў у Маскоўскім інстытуце кінематаграфіі, у Народным камісарыяце цяжкай прамысловасці.

Але ў 1934 годзе ў Мінску арыштавалі прафесара Івана Замоціна, які не вытрымаў допытаў і даў паказанні пра міфічную арганізацыю «Рускай нацыянальнай партыі», да якой нібыта ён сам належаў і належалі іншыя навукоўцы, сярод якіх і Аляксандр Вазнясенскі.

Івана Замоціна хутка адпусцілі, а Вазнясенскага ў 1934 годзе арыштавалі. У сваіх паказаннях у 1956 годзе Вазнясенскі пісаў: «Когда я был арестован в 1934 году в Москве вместе с академиками Перетц и Сперанским, мне зачитали показания Замотина, который называл меня монархистом… После долгих истязаний, применяемых ко мне, я вынужден был дать показания на Замотина… Замотин пострадал благодаря своей слабохарактерности и трудности…» («Советская Белоруссия», 19 студзеня 2007).



ВЕРХОВНЫЙ СУД РСФСР
МОСКОВСКИЙ ГОРОДСКОЙ СУД
Каланчевская, 43

№ 5пс 262/64 17 ноября 1964 г.

СПРАВКА

Дело по обвинению ВОЗНЕСЕНСКОГО Александра Николаевича, до ареста профессор Московского областного педагогического института, пересмотрено Президиумом Московского городского суда 26 октября 1964 г.

Постановление коллегии ОГПУ от 29 марта 1934 года отменено, а дело в отношении ВОЗНЕСЕНСКОГО Александра Николаевича, 1888 года рождения, производством прекращено за отсутствием в его действиях состава преступления.

ВОЗНЕСЕНСКИЙ Александр Николаевич по настоящему делу реабилитирован.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ МОСКОВСКОГО ГОРОДСКОГО СУДА /ОСЕТРОВ/



СССР
НАРОДНЫЙ КОМИССАРИАТ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ
1-й спецотдел
22 августа 1945 г.
№ 8/4-40252
г. Москва

СПРАВКА

Выдана гр-ну ВОЗНЕСЕНСКОМУ Александру Николаевичу 1888 года рождения, уроженцу Мордовской АССР

судимому бывшей Коллегией ОГПУ 29.III-1934 г.

по ст. 58-10-11 и 4 УК РСФСР в ИТЛ

сроком на пять лет (года) в том, что он отбыл наказание „10“ февраля 1939 г. и указанная судимость, вместе со всеми связанными с ней ограничениями, с него снята по постановлению Особого совещания при Народном Комиссаре Внутренних Дел Союза ССР от „4“ августа 1945 г.

Основание: Указ Президиума Верховного Совета Союза ССР от 5 апреля 1939 года.

Начальник 1 Спецотдела НКВД СССР

Начальник отделения

При ответах ссылаться на наш № и число

Пасля арышту Вазнясенскага накіравалі ў Ташкент, дзе літаратуразнавец пражыў цэлых 5 гадоў. За гэты час ён паспеў наладзіць сувязь з беларускім крытыкам і літаратуразнаўцам Уладзіславам Чаржынскім, які ўжо некалькі гадоў жыў і працаваў у Казані, куды быў сасланы з Мінску. Магчыма, Чаржынскі дамовіўся з працаю і паклікаў Вазнясенскага з Ташкента ў Казань. Дый жылі яны пазней на адной вуліцы Дзяржынскага ў Казані: Чаржынскі — у доме № 15, кв. 8, Вазнясенскі — у доме № 11, кв. 54.

У 1939 годзе Аляксандр Вазнясенскі прыехаў у Казань і ўладкаваўся на працу ў Казанскі педагагічны інстытут. У 1943 годзе ён абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Даследаванні па гісторыі новай беларускай літаратуры». Дарэчы, яна не выдавалася і цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Казанскага ўніверсітэта.

Пасля абароны доктарскай дысертацыі, Аляксандр Вазнясенскі некалькі гадоў кіраваў кафедрай рускай і замежнай літаратур. Шмат працаваў, арганізоўваў навуковыя сесіі і канферэнцыі па літаратурных праблемах, вёў навуковыя даследаванні па праблемах нацыянальнай спецыфікі літаратуразнаўства і метадалогіі літаратуры, у тым ліку і па беларускай, развіваў традыцыі акадэмічнага літаратуразнаўства. У 1943 годзе яго прызначылі дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта Казанскага ўніверсітэта.

Недалёка ад Казані ў Печышчах (прыехаў сюды ў лістападзе 1941 года) жыў тады Янка Купала. У пачатку чэрвеня тут адбылася другая сустрэча Аляксандра Вазнясенскага з нашым песняром. 16 гадоў яны не бачыліся. Усю ноч гутарылі пра Беларусь, літаратуру, пра падзеі на фронце. Праз некалькі дзён Купала завітаў да Вазнясенскіх. Гэта была іх апошняя сустрэча…

## Рэабілітацыя

Доктар філалагічных навук, прафесар, літаратуразнавец і крытык Аляксандр Вазнясенскі памёр у Казані ў 1966 годзе, дзе і пахаваны. Студэнты і выкладчыкі Казанскага ўніверсітэта памятаюць пра свайго выкладчыка. У музеі і архіве ўніверсітэта захоўваюцца яго дакументы, запісы, публікацыі, фотаздымкі, дзённікі, творы, афішы аб правядзенні розных навуковых сесій гісторыка-філалагічнага факультэта. Сярод дакументаў ёсць там і даведка № 58 КК РСФСР ад 1945 года аб зняцці з Вазнясенскага судзімасці, а таксама даведка аб рэабілітацыі, атрыманая з Маскоўскага гарадскога суда ў 1964 годзе за подпісам старшыні суда Асятрова.

У даведцы, дарэчы, сказана, што «дело по обвинению Вознесенского Александра Николаевича, до ареста профессор Московского областного педагогического института, пересмотрено Президиумом Московского городского суда 26 октября 1964 года. Постановление коллегии ОГПУ от 29 марта 1964 года отменено, а дело в отношении Вознесенского Александра Николаевича, 1888 года рождения, производством прекращено за отсутствием в его действиях преступления. Вознесенского Александра Николаевича по настоящему делу реабилитировать».

***P.S.*** *Калі жыў у Слоніме прафесар Алег Лойка, я ў яго неяк запытаўся пра Аляксандра Вазнясенскага. Алег Антонавіч тады сказаў: «Аляксандр Вазнясенскі, Уладзімір Пічэта і Іван Замоцін — выдатныя навукоўцы, якія ўнеслі вялікі ўклад у беларускую гісторыю і філалогію ў 20–30-х гадах XX стагоддзя. Гэта быў нялёгкі, супярэчлівы і жорсткі час для Беларусі. Але вучоныя ў сваіх творчых ацэнках кіраваліся эстэтычнымі крытэрыямі, а не вульгарна-сацыялагічнымі догмамі. Аляксандр Мікалаевіч Вазнясенскі быў настаўнікам майго настаўніка Юліяна Пшыркова. Калі я чытаў артыкулы Вазнясенскага, мне здавалася, нібыта гэта былі артыкулы Пшыркова. Таму што разуменне было аднолькавае. Якуба Коласа ў той час шальмавалі, але крытык Аляксандр Вазнясенскі на гэта не паддаўся. І пісалі Вазнясенскі, Замоцін і Пічэта па-беларуску. Дарэчы, Замоцін быў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта, Пічэта — рэктарам і прафесарам Белдзяржуніверсітэта, пасля — Маскоўскага ўніверсітэта, Вазнясенскі — прафесарам Казанскага ўніверсітэта. Гэта былі найвялікшыя асобы Беларусі XX стагоддзя».*

# Турызм з беларускім тварам

Кірыл СТАСЕЛЬКА

Нягледзячы на шматлікія заявы ў дзяржаўных СМІ аб турыстычнай прывабнасці Беларусі, колькасць замежных турыстаў зніжаецца з кожным годам. У сваю чаргу, колькасць беларускіх турыстаў, якія наведваюць краіны па-за межамі СНД, павялічылася з 218 да 660 тысяч — амаль у тры разы.

Перашкодзіць скарачэнню колькасці замежных турыстаў не змаглі ні дзяржаўныя праграмы па развіцці дадзенай галіны, ні нават Чэмпіянат свету па хакеі, які прайшоў у Мінску ў мінулым годзе і на які ўскладаліся вялікія надзеі.






# Якое каханне ідэальнае? Запытайся ў пісьменніка

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча сучасныя беларускія літаратары падзяліліся тымі гісторыямі кахання, што натхняюць іх на жыццё і творчасць.**


Куфар Ганны Какуевай

Падставай для імпрэзы стала атрыманне з Санкт-Пецярбурга сапраўднага куфара, які калісьці належаў Ганне Какуевай — музе Максіма Багдановіча. 24 красавіка якраз споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Ганны.

Беларускім пісьменнікам і паэтам было прапанавана расказаць пра тое каханне, якое выклікае ў іх захапленне, адбіваецца на ўласнай творчасці. На працягу імпрэзы творцы неаднаразова прызнаваліся, што пра такое казаць цяжка. Але пісьменнікі не разгубіліся і, прачытаўшы штосьці з уласнай творчасці, смела расказвалі тыя гісторыі, якія іх натхняюць.


Адам Глобус

Адама Глобуса найперш кранае гісторыя кахання яго бацькоў. Пісьменнік расказаў гледачам, як ён аднойчы пабачыў брудныя чаравічкі на нагах яго маці (гэта было адразу пасля смерці бацькі). Ён спытаў: «Мама, чаму ў цябе брудныя чаравікі?» І пачуў адказ: «Мне чаравікі чысціў заўсёды бацька». Натхнялі Адама Глобуса і яго суседзі — сям'я Караткевіча.


Уладзь Лянкевіч

Уладзь Лянкевіч яшчэ з дзяцінства захапляецца такім музыкам, як Джым Морысан. І за самую шчымлівую гісторыю кахання ён узяў гісторыю кахання Морысана і Памэлы Картсан. Бо вельмі важна, каб каханы разумеў тваю сутнасць, не зважаючы, як да цябе ставіцца ўсе астатнія людзі. Менавіта так рабіла рудавалосая Памэла, якая казала Морысану: «Які ж ты музыка? Ты павінен быць паэтам».

Міхаіла Бараноўскага найперш цікавіць каханне Максіма Багдановіча, але не канкрэтнае


Міхаіл Бараноўскі

стаўленне да пэўнай дзяўчыны, а яго адносіны да дзяўчат наогул. Другое каханне, якім захапляецца творца, — каханне Уладзіміра Караткевіча і Ніны Молевай, прататыпа Ірыны са знакамітага рамана «Нельга забыць». Міхаіла зачапіла тое, што да прыходу ў Літаратурны Інстытут і да знаёмства з Нінай, Караткевіч быў досыць разбэшчаным і самаўпэўненым. А Ірына змагла змяніць пісьменніка.


Альгерд Бахарэвіч

Альгерд Бахарэвіч захапляецца каханнем Норы Барнакл і Джэйса Джойса, аўтара вядомага «Уліса». Пісьменніка ўразіла, што Нора, будучы каталічкай, жыла з алкаголікам-раўніўцам Джэйсам па-за шлюбам некалькі дзясяткаў гадоў, пераязджаючы з адной еўрапейскай краіны ў другую. У адрозненне ад іншых жонак творцаў, Нора ніколі не разумела, чым займаецца Джэймс. Аднойчы яна сказала яму: «Джэймс, напішы што-небудзь нармальнае».

Паэтка і перакладчыца Юлія Цімафеева распавяла гісторыю, якая ўразіла яе найперш у літаратурнай праяве. Яна зачытала кавалак ліставання Франца Кафкі і чэшскай перакладчыцы Мілены Ясенскай. Бачыліся каханыя толькі два разы ў жыцці,


Юлія Цімафеева

таму іх пачуцці развіваліся ў пісьмовым выглядзе. Гэтае ліставанне пэўным чынам і адбілася ў творчасці Юліі Цімафеевай.

Віка Трэнас мяркуе, што ў сучасным каханні бракуе вернасці. Верным каханнем яна лічы-


Віка Трэнас

ць Іосіфа Бродскага да Марыны Басманавай. Пакахаўшы Марыну ў 21 год, Бродскі ўсё жыццё прысвячаў ёй вершы. Зрэшты, ён пабраўся шлюбам з маладой дзяўчынай, якая знешне надзвычай нагадвала Марыну.


Георгій Барташ

Георгій Барташ распавёў гісторыю малавядомага Аляксандра Каніцкага, які быў удзельнікам паўстання 1830 года. Георгія прывабіла гэта гісторыя таму, што гэта быў раман двух літаратараў, на працягу стасункаў якіх абодва дасягнулі поспехаў у тагачаснай літаратуры.

Хоць нашы сучасныя паэты і пісьменнікі не вельмі хацелі дзяліцца ўлюбёнымі гісторыямі кахання, але затое зараз чытачы ведаюць, адкуль бяруцца тыя ці іншыя матывы ў іх творчасці.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 571

Падпісана да друку 30. 04.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.